# БАЦЬКАЎШЧЫНА



ГАЗЭТА ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ — ЦАНА 30 Н. ФЭН.

ВОРГАН БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНА-ВЫЗВОЛЬНАЙ ДУМКІ

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „BAĆKAUŠČYNA" („VATERLAND")

Herausgeber: Wladimir BORTNIK

Postadresse: Die Weissruthenische Zeitung „Baćkauščyna" („Das Vaterland"), (13 b) München 19, Schliessfach 69.

Druck. „LOGOS", Buchdruckerei u. Verl., G.m.b.H., München 19, Bothmerstr. 14

**Цана: Нямеччына:** на год. — 14,— м.; 6 м-цаў — 7,50 м.; 3 м-цы — 4,25 м.; **ЗША і Канада:** на год — 8,— д.; 6 м-цаў — 4,50 д.; 3 м-цы — 2,50 д.; 1 нумар — 0,20 м. **Ангельшчына й Аўстралія:** 39 шыл.; 21 шыл.; 12 шыл.; 1 шыл; **Бэльгія:** 210 фр.; 120 фр.; 75 фр.; 5 фр. **Францыя:** 800 фр.; 450 фр.; 250 фр.; 20 фр. **Аргентына:** 80 пэз.; 45 пэз.; 25 пэз.; 2 пэз. **Перасылка летніцкай поштай каштуе падвойна. Падвойныя нумары каштуюць падвойна. Паадзіночныя нумары газэты разам з «Каласкамі» ўважаюцца за падвойныя.**

Банковае конто: Zeitung „Baćkauščyna", Konto Nr. 357-125, Bay. Hypotheken- u. Wechselbank, München.

LE JOURNAL BIELORUSSIEN „LA PATRIE" | DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „DAS VATERLAND" | THE BELORUSSIAN NEWSPAPER „THE FATHERLAND"

№ 31 (566) — Нядзеля 30 ліпеня 1961 г. — ГОД ВЫДАНЬНЯ 15

# Не паўтарыць памылкі 18 ліпеня

18 ліпеня ўрад Злучаных Штатаў даручыў савецкаму ўраду ноту, якая зьяўляецца адказам на ноту Хрушчова, перададзеную прэзыдэнту Кэнэды ў Вене. Адначасова з амэрыканскім урадам, урады Вялікабрытаніі і Францыі перадалі савецкаму ўраду ноты адносна гэтага-ж пытаньня. Гэтыя тры ноты заходніх дзяржаваў адкідаюць прапановы Хрушчова, як у бэрлінскім, так і ў агульнанямецкім пытаньнях.

Складаньне адказу заходніх дзяржаваў Хрушчову трывала больш за 6 тыдняў. Чаму? Таму, што ўрад Злучаных Штатаў вёў нарады ў гэтым пытаньні ня толькі з урадамі Вялікабрытаніі і Францыі, і ня толькі з урадамі ўсіх дзяржаваў — сяброў Паўночна Атлянтычнага Пакту НАТО, але дакладна высьвятліў дачыненьні і шматлікіх іншых краінаў да палітычнай пазыцыі, выказанай у ноце адказу савецкаму ўраду. Справакаваны крызіс заходнія дзяржавы ўважаюць такім небясьпечным, што яны палічылі патрэбным загарантаваць сабе поўную падтрымку краінаў ўсяго вольнага сьвету.

Што-ж гэта азначае? Гэта азначае, што Хрушчоў — фармулюючы асьцярожна — свае мэты не дасягнуў. У сувязі з гэтым, зьвернемся да гісторыі. У 1948-ым годзе Сталін наважыўся на дзьве правакацыі: ён захапіў Чэхаславаччыну шляхам ня толькі падрыўной дзейнасьці і палітычных маніпуляцыяў праз свайго пасла Валярыяна Зорына (які цяпер зьяўляецца галоўным прадстаўніком савецкага ўраду ў пытаньні аб раззбраеньні), але і шляхам ваеннай пагрозы. Ён высунуў дамаганьне ў справе бэрлінскага пытаньня, якое Хрушчоў, фактычна, паўтарыў дзесяць год пазьней і якое ён паўтарае зноў сёлета. Прыгадаем, што калі нядаўняя саюзьнікі Савецкага Саюзу ў супольным змаганьні з нацызмам адкінулі гэтыя дамаганьні Сталіна, дык Сталін закрыў усе наземныя шляхі паміж Заходняй Нямеччынай і Заходнім Бэрлінам.

Які-ж быў вынік?

Заходнія дзяржавы зарганізавалі бэрлінскі паветраны мост, праз які пачалі дастаўляць харчаваньне жыхаром Бэрліну, а грамадзяне Заходняга Бэрліну выявілі такую гераічную вытрываласьць, што палітыка Сталіна скончылася поўным правалам.

Але найважнейшым вынікам гэтай сталінскай палітыкі было зьяўленьне на міжнароднай арэне новай палітычнай сілы — арганізацыі Паўночна-Атлянтычнага Пакту НАТО.

Ці ня ясна кажнаму сябру КПСС, кажнаму камсамольцу, а можа навет і шмат якім піянэрам, што Ленін хіба не пахваліў-бы такой палітыкі? Галоўным-жа заданьнем гэтак званага мірнага суіснаваньня зьяўляецца не задзіночаньне, а падзел гэтак званага капіталістычнага сьвету, **разьмяжоўваньне** сваіх праціўнікаў. Інакш кажучы, Хрушчоў паўтарае цяпер сталінскую памылку. Ён зноў узброіў і задзіночыў у палітычна-псыхалягічным і ў вайсковым сэнсе ўвесь вольны сьвет супраць савецкага ўраду і хутка даводзіць палажэньне да таго ліміту, за якім могуць пачацца ваенныя дзеяньні.

Але, можа, гэтая гульня ва-банк усё-ж удасца Хрушчову? Можа, ня гледзячы на цьвёрдую пазыцыю заходніх дзяржаваў, яны ў вапошні мамэнт усё-ж паддадуцца й аддадуць Заходні Бэрлін Хрушчову і Ульбрыхту? Ці можна сабе ўявіць такое развязаньне бэрлінскага пытаньня? Зьвернемся зноў да гісторыі.

30-га верасьня 1938-га году, за 10 год да сталінскай бэрлінскай правакацыі і за 20 год да ейнага паўтору Хрушчовам, прэм'еры Вялікабрытаніі і Францыі, Чэмбэрлен і Даляд'е падпісалі ў Мюнхэне ўмову зь Гітлерам і Мусаліні. Пад пагрозамі дыктатараў, яны згадзіліся паводля гэтай умовы перадаць гітлераўскай Нямеччыне частку дэмакратычнай Чэхаславаччыны. Пасьля гэтага, вярнуўшыся ў Лёндан, Чэмбэрлен заявіў: «Мы забясьпечылі мір на ўсю нашу эпоху». А год пазьней Гітлер пачаў Другую Сусьветную Вайну...

Мы ведаем, якіх цярпеньняў каштавала людзтву гэтая сусьветная вайна. І народы вольнага сьвету цяпер добра ведаюць, што **кажнай** цаной мір купіць нельга, і што смага дыктатараў неўтаймаваная.

У амэрыканскім часапісе «Юнайтэд Стэйтс Ньюс энд Ўорлд Рэпорт» з 24-га ліпеня апублікаваны вынікі апытаньня насельніцтва ЗША ў бэрлінскім пытаньні. На пытаньне — ці лепш паддацца, ці ваяваць, бароначы Бэрлін? — 14 працэнтаў Амэрыканцаў адказала, што лепш паддацца, 15 працэнтаў выказаліся за палітыку трымацца цьвёрда, але асьцярожна, калі магчыма, унікаючы вайны — а за палітыку цьвёрдую, навет з рызыкай вайны, калі гэта будзе неабходным, выказалася 71 працэнт апытаных Амэрыканцаў. Пасьля шасьцітыднёвага абмеркаваньня гэтага пытаньня, урады заходніх дэмакратыяў ведаюць, што іх падтрымоўвае вялізарная бальшыня іхных грамадзян. Народы вольнага сьвету, як і іхныя ўрады добра запамяталі мюнхэнскую лекцыю гісторыі і ня хочуць паўтарыць тэй фатальнай памылкі, якую зрабілі тады, падпісаўшы ўмову з фашыстаўскім дыктатарам напярэдадні Другой Сусьветнай вайны. Гісторыя паўтараецца. Так — але не заўсёды аднолькава. І ў гэтым выпадку няма ніякіх падставаў думаць, што паўторыцца самая страшная гістарычная памылка.

Р. С.

# Добрая ідэя

У гэтым нумары «Бацькаўшчыны» нашы чытачы знойдуць інфармацыю аб тым, што Беларусы ў Задзіночаных Штатах Амэрыкі пастанавілі купіць адпаведную маемасьць і заснаваць свой «цэнтар адпачынку». Адмыслова створаны дзеля гэтае мэты камітэт пачаў ужо дзейнасьць у гэтым кірунку.

Нельга не пахваліць і не падтрымаць гэтае ідэі. І запраўды: новая беларуская эміграцыя ў Задзіночаных Штатах ужо добра матарыяльна замацавалася, яе з усімі падставамі можна назваць заможнай. У пару адпачынку кажны жыхар гораду стараецца апынуцца хоць на некаторы час сярод прыроды, далёка ад гарадзкога шуму і сьпеху. І, пэўна-ж, у такім выпадку куды больш мэтазгодна плаціць сваім, чымся асобам або арганізацыям ці навет варожа настаўленым да нашай вызвольнай справы, як гэта зазначаюць ініцыятары «беларускага цэнтру адпачынку».

Такі цэнтар адпачынку, пры адпаведным кіравецтве, можа выявіцца надта карысным з усіх гледзішчаў. Ён можа, і навет мусіў-бы стаць і сваеасаблівым культурным цэнтрам — з адпаведнай бібліятэкай і г. д. Дзецям-жа і моладзі, як падкрэсьліваюць ініцыятары, такі цэнтар даў-бы магчымасьць большага кантакту, ужываньня і ўдасканаленьня роднае мовы, пазнаваньня роднай культуры і г. д. Ужо толькі гэты адзін аспэкт апраўдвае ўсю ідэю.

Тут на месцы будзе прыгадаць праект Міністэрства Асьветы ЗША «Моўныя рэсурсы Амэрыкі» — праект, скіраваны на захаваньне ведаў свае ўласнае мовы і культуры дзецьмі новых імігрантаў. Ня так даўно наша эміграцыйная прэса даволі шырока інфармавала сваіх чытачоў аб гэтым вельмі карысным для нас пляне. Як ведама, у сучасны мамэнт кіраўнікі праекту дакладна вывучаюць усе шляхі і магчымасьці ягонага ажыцьцяўленьня, і ўдзячныя ўсім асобам і арганізацыям за ідэі і прапановы ў гэтым кірунку. На нашу думку, ініцыятарам «беларускага цэнтру адпачынку» варта было-б увайсьці ў кантакт з адказнымі за прыгаданы праект, вытлумачыўшы ім, якую карысную ролю могуць адыграць такія «цэнтры адпачынку» як плянаваны цяпер Беларусамі ЗША. Ёсьць усе падставы ўважаць, што яны зацікавяцца гэтай ідэяй, а можа навет і дзейсна яе падтрымаюць. Бо-ж ня трэба забывацца, што знайсьці, а навет і купіць адпаведны аб'ект у вадпаведным месцы — гэта толькі пачатак. Галоўнае — гэта абсталяваць яго так, каб ён цалкам адпавядаў прызначаным яму мэтам. Ініцыятары ды й наагул наша грамадзтва ў Задзіночаных Штатах павінны спыніцца на гэтым дакладней і распрацаваць адпаведны плян.

Няма сумліву, што вельмі важны і матарыяльны бок пытаньня. Але, на нашу думку, гэта не непераадольная праблема. Як мы казалі, эміграцыя наша ў ЗША параўнальна заможная, і хіба знойдзецца даволі пайшчыкаў — пай у вышыні 100 даляраў не такі ўжо й высокі. Да гэтага-ж грошы гэтыя не прападаюць. Хутчэй наадварот: калі такі цэнтар адпачынку будзе запраўды адпавядаць сваім мэтам — г. зн. пры добрай арганізацыі і добрым адміністраваньні — ён вельмі хутка можа даваць немалыя прыбыткі. Ёсьць падстава спадзявацца, што пасьля куплі першага такога «беларускага цэнтру адпачынку», за ім хутка пачнуць зьяўляцца і другія — пакуль яны не задаволяць патрэбаў цэлай нашай эміграцыі ў Амэрыцы. Паўтараем — такія вынікі разьвіцьця матарыяльнай базы эміграцыі можна толькі вітаць, бо ў дадзеным выпадку вынікі гэтыя карысныя. Але ці карысныя яны ўва ўсіх выпадках? Гэтае пытаньне разгледзім у нашым наступным артыкуле.

Ул. Немановіч

# Рэфэрэндум у Турцыі

У Турцыі нядаўна быў праведзены рэфэрэндум ў пытаньні аб новай Канстытуцыі. Паводля гэтай Канстытуцыі, Турцыя становіцца дэмакратычнай рэспублікай, пабудаванай на прынцыпе сацыяльнай справядлівасьці. Незалежная парыская газэта «Лё Монд» прысьвячае артыкул унутрыпалітычнаму палажэньню ў Турцыі, якое стварылася ў выніку рэфэрэндуму. Газэта «Лё Монд» піша:

Рэфэрэндум, праведзены ў Турцыі ў нядзелю 9-га ліпеня, паказаў, што праект Канстытуцыі, выпрацаваны ўрадам генэрала Гюрсэля, быў ухвалены турэцкім народам. За гэты праект выказалася 67 працэнтаў усіх удзельнікаў рэфэрэндуму. Фактычна, такі вынік галасаваньня паказвае, што абсалютная бальшыня насельніцтва Турцыі падтрымала ўрад. Такім чынам, рэжым, устаноўлены ў краіне ў выніку вайсковага перавароту 27-га травеня 1960-га году. трэба ўважаць узаконеным.

Генэрал Гюрсэль і ягоныя найбліжэйшыя супрацоўнікі выказалі задаваленьне вынікамі рэфэрэндуму. Аднак. наўрад ці можна зачыняць вочы на той факт. што адна трэцяя частка турэцкага народу, выказаўшыся супраць праекту Канстытуцыі, гэтым самым заявіла аб сваёй нязгодзе з урадавым курсам.

Адзначым, што гэтая вялікая колькасьць галасоў, пададзеных супраць ўрадавага праекту, сьветчыць аб поўнай свабодзе, у якой адбываўся рэфэрэндум. Новы ўрад Турцыі, які часта гаворыць аб дэмакратычных свабодах, відавочна патурбаваўся аб тым, каб ягоныя лібэральныя заявы не разыходзіліся з адміністрацыйнай практыкай.

Праўдападобна, апазыцыйныя настроі, якія выявіліся на рэфэрэндуме, выходзілі, галоўным чынам, з колаў, якія падтрымоўваюць гэтак званую дэмакратычную партыю. Гэтая партыя, як ведама, была пануючай за часоў ураду Мэндэрэса. У васноўным яна апіралася на клерыкальныя колы — на прадстаўнікоў магамэтанскага духавенства і на некаторыя пласты веруючых. Рэфэрэндум у пытаньні аб праекце Канстытуцыі даў гэтай групе насельніцтва Турцыі магчымасьць выявіць сваю апазыцыю да палітыкі, праводжанай урадам генэрала Гюрсэля ў пытаньнях рэлігіі, ці кажучы дакладней, — анты-клерыкалізму новага ўраду. Такая магчымасьць апазыцыі была дадзеная ў Турцыі ўпяршыню ад часоў Кемаля Атацюрка.

Трэба дадаць, што апрача клерыкальных пластоў турэцкага грамадзтва, супраць ураднавага праекту Канстытуцыі галасавалі і гандлёва-прамысловыя колы. Тлумачыцца гэта тым, што шмат якія артыкулы праекту ськіраваныя на абмежаваньне прыватнага прадпрыемніцтва ў Турцыі. Гэты праект прадбачвае і абмежаваньне прыватнай уласнасьці, нацыяналізацыю некаторых галінаў прамысловасьці і даволі прагрэсыўныя сацыяльныя рэформы. Праект Канстытуцыі, пададзены ўрадам генэрала Гюрсэля. выклікаў шмат пярэчаньняў ужо ўва Ўстаноўчым Сходзе. Толькі цьвёрдасьцяй, выяўленай у гэтым пытаньні Камітэтам Нацыянальнага Адзінства, тлумачыцца той факт, што ўрэшце Ўстаноўчы Сход зацьвердзіў урадавы праект.

Новая турэцкая Канстытуцыя — гэта важны крок наперад на тым шляху пераўтварэньняў, на які краіна стала ў выніку зьмены ўраду ў травені 1960-га году.

Адзін з вынікаў рэфэрэндуму, праведзенага цяпер ў Турцыі, ясны ўжо цяпер. Тыя 32 працэнты галасоў, якія былі пададзеныя супраць урадавага праекту, не занепакоілі ўрад, але яны былі паразай для трэйцяй палітычнай сілы ў Турцыі — народна-рэспубліканскай партыі Ісмэт Іноню. Ейнае кіраўніцтва разьлічвала на тое, што супраць Канстытуцыі будзе пададзена куды больш галасоў. Гэта аблегчыла-б народным рэспубліканцам паварот да ўлады. Кіраўніцтва народна-рэспубліканскай партыі ўжо магло пераканацца, што ініцыятары вайсковага перавароту 27-га травеня 1960-га году сьцінулі Мэндэрэса і гэтак званую дэмакратычную партыю не дзеля таго, каб проста вярнуць да ўлады народных рэспубліканцаў. Рэфэрэндум 9-га ліпеня паказаў, што яно памылілася.

# Сёе-тое

Дзесятага ліпеня пачалася ў Эрлс Корт у Лёндане бальшавіцкая выстаўка. Атракцыйнай зоркай зьявіўся касманаўт Юры Гагарын. Урад меў наўвеце аднесьціся да першага лётніка ў космас з рэзэрвай. Адылі ўжо зараз пасьля ягонага прыезду выявілася, што гэта немагчыма.

Прэса (выключаючы самую найважнейшую) заатаквала ўрадавы плян, а людзі сустрэлі касманаўта з энтузіязмам. Ужо на другі дзень часткова высьвятліўся сакрэт, чаму галоўныя рухавікі гэнай энтузіястычнай таўкучы выявіліся... дзяўчаты й жанчыны. Малады й прыгожы Юры Гагарын мае «сэкс апіл» (прывабнасьць).

Гісторыя зь людзьмі ў вольным сьвеце, якія мелі ці маюць «сэкс апіл», даволі багатая. Перадусім імі былі й ёсьць артысты й сьпевакі абодвух родаў. Да іх належаць Франк Сінатра, Эдзі Фішэр, Элвіс Прыслі, Рок Гадсон, Марылін Манро, Рыта Гэйворт і безьліч іншых. Асабліва мужчыны часта пасьля выступленьняў у тэатрах не маглі адбіцца ад сваіх паклоньніцаў-дзяўчат, што ці раз парвалі-пашматалі на кавалачкі ім адзеньне. Але хто спадзяваўся, што ангельскія місы знойдуць «сэкс апіл» у Гагарына, ды й зачнуць зусім таксама пішчэць і крычаць з захапленьня, як убачыўшы якую галівудзкую зорку?

Палітыка, ведама, іх ня цікавіць.

Усё-ж можна быць пэўным, што папулярнасьць Гагарына ў Вялікай Брытаніі бальшавіцкая прэса аднясе на конта «вялікіх посьпехаў перадавога грамадзтва», «ленінскай ідэі», «роднае партыі» і гэтак далей.

☆

Калі нядаўна іракскі прэм'ер Касэм абвесьціў, што скора прылучыць да Іраку Кувэйт, дык калі супраць гэтага выступіў Насэр, а Ангельшчына выслала на дапамогу Кувэйту сваё войска, шмат дзе спадзяваліся, што крамлёўскі мядзьведзь выкарыстае нагоду, каб умяшацца й памагчы Касэму. Яшчэ-ж сьвежая ў памяці іракская рэвалюцыя ды бальшавіцкія транспарты вышкаленых і узброеных кадраў, што высылаліся іракскім рэвалюцыянерам на дапамогу. Але гэтым разам бальшавікі не пасьпяшалі Касэму з дапамогай і яму, як відаць, тымчасам давялося зрэзыгнаваць з багатага нафтай Кувэйту.

І як-жа маглі бальшавікі яму дапамагчы, калі вось надоечы «Сусьветны марксыстаўскі агляд» называў Касэма «лякаем нафтавага капіталізму», «прыладай арабскага каляніялізму» й інш?

Насэр і Касэм не належаць у вачох Масквы да роднай сям'і. Справа ў тым, што й яны хутка распазналі запраўдныя маскоўскія намеры адносна арабскіх краінаў і ў час прышчамілі мясцовых камуністых, шматлікіх навет прыдзяліўшы туды, куды яны даўно належалі — у вязьніцы.

☆

Прэм'ер Ганы Нкрума, які снуе пляны аб'яднаньня чорнага кантынэнту (разумеецца пад ягоным кіраўніцтвам) падчас побыту ў Маскве ў палове ліпеня заявіў, што ён цьвёрда пераканаў, што Савецкі Саюз зьяўляецца запраўдным прыяцелем афрыканскіх народаў і запраўды жадае памагчы іхным вызвольным імкненьням.

Выглядае, што спадар Нкрума далёка адстаў ад Насэра й Касэма і патрабуе яшчэ шмат лекцыяў, каб распазнаць запраўднае маскоўска-бальшавіцкае аблічча. Ці не адлегласьць да Масквы тут вінаватая?

☆

Прызнаньне Задзіночанымі Штатамі сувэрэннасьці Вонкавай Манголіі выклікала шмат камэнтараў. Ці ня ёсьць гэта падрыхтоўкай да прызнаньня чырвонага Кітаю?

Пакуль што Чан Кай Шы із супалкай вельмі незадаволены гэткім амэрыканскім крокам. Адно ясна, што Амэрыка, а за ёю і некаторыя іншыя заходня-дэмакратычныя дзяржавы ня змогуць доў-

(Заканчэньне на 4-ай бач.)

*Зь гісторыі Беларусі*

# Да пытаньня „Змовы князёў“ 1481 году

**(Працяг з папярэдняга нумару)**

Пэрыяд 1457-1460 гадоў прайшоў параўнальна спакойна ў літоўска-польскіх дачыненьнях. Ведама, тут падзейнічалі ўгаворы Казіміра, ягонае пацьверджаньне прывілеяў ВКЛ з 27 лютага 1457 году, і асабліва ўплыла сьмерць галоўнага ворага Польшчы Віленскага ваяводы Яна Гаштольда ў 1458 годзе, які, будучы канцлерам ВКЛ, мог праводзіць больш станоўча сваю антыпольскую палітыку. Палякі навет пачалі дамагацца дапамогі Вялікага Княства Літоўскага ў іхнай вайне з Крыжацкім ордэнам. Гэтае пытаньне узьняў сам Казімір на літоўскім Берасьцейскім сойме ў красавіку 1460 году. Як контрпрапанову, Ліцьвіны высунулі з свайго боку пытаньне звароту Падольля. Польшча не атрымала літоўскае падтрымкі; у той-жа час адчуўся больш станоўчы наступ Ліцьвіноў на Польшчу. Справа ў тым, што польска-пруская вайна стала хіліцца да польскае перамогі, і Ліцьвіны імкнуліся выкарыстаць апошнюю выгадную магчымасьць для разьліку з Польшчай. Калі ў красавіку 1461 году Казімір на Літоўскім сойме узьняў пытаньне польска-літоўскіх спрэчак і літоўскае дапамогі Польшчы, Ліцьвіны аднагалосна запатрабавалі ад Казіміра або назаўсёды застацца ў Вялікім Княстве Літоўскім і такім чынам зрачыся польскае кароны, або згадзіцца на перадачу вялікакняжага пасаду кіеўскаму князю Сямёну Алелькавічу. Казімір ухіліўся ад канкрэтнага адказу; нічога ён ня мог сказаць таксама адносна Падольскае зямлі. Як сьветчаць некаторыя крыніцы, Ліцьвіны зноў увайшлі ў зносіны з ханам Залатой Арды ды шукалі падтрымкі ў ваяводы Малдавіі Сьцяпана. Найменна, у прарачэньні апошняга Казіміру й Польшчы, якое ён змушаны быў даць у сакавіку 1462 году, вылучаўся адзін пункт, што Сьцяпан забавязваецца ў ніякім выпадку **перадаваць у Літву** дзяцей хана Сэдзі-Ахмата, якіх ён захапіў у палон. [24]) Дайшло таксама да супольнага зьезду Палякоў і Ліцьвіноў на польскім сойме ў Петрыкаве ў 1463 годзе, на якім Ліцьвіны запатрабавалі касацыі актаў Ягайлаўскае вуніі й перадачы ВКЛ Падольля.

Перад небясьпекай выбуху вайны з Польшчай, Казімір паабяцаў разьвязаць польска-літоўскую праблему на наступным Літоўскім сойме, скліканьня якога адкладаў аднак з 1463 на 1464 год, потым з 8 верасьня на 11 лістапада гэтага-ж 1464 году. Тым часам Ліцьвіны зьбліжаюцца з ваяводам Малдавіі Сьцяпанам, саюз зь якім быў навет замацаваны жаніцтвам апошняга зь сястрой кіеўскага князя Сямёна Алелькавіча Еўдакіяй у 1463 годзе. У лістападзе 1464 году Ліцьвіны зьяжджаюцца на сойм у Берасьце, а Палякі ў Парчове. Ліцьвіны адмаўляюцца прыбыць на Парчоўскі польскі сойм, а таму дэлегацыі абодвух соймаў сустракаюцца на паўдарозе ў Ламазах, дзе ў прысутнасьці Казіміра вядуцца перамовы ў справе Падольля й польска-літоўскіх узаемадачыненьняў. Як і ранейшыя сустрэчы ў гэтай справе, апошняя сустрэча была бяз выніку і справа Падольля завешваецца ад гэтага часу ажно да сьмерці Казіміра ў 1492 годзе. У 1466 годзе Палякі выйграюць вайну з Прусіяй, што, ведама, не магло не падзеіць на дасюлешнюю вайстрыню літоўскіх дамаганьняў. Абыдва бакі загаварылі міжсобку больш стрымана, хоць і не адмаўляліся ад сваіх прэтэнсыяў на землі заходняга Падольля. Справа актаў Ягайлаўскае вуніі таксама пачала губляць сваё значэньне; яны былі здадзеныя ў архіў літоўскім бокам, бо Ліцьвіны найменш пачалі зьвяртаць на іх увагу, будучы цьвёрда наважанымі ў далейшым ня зьвязваць сябе з Польшчай навет супольным выбарам гаспадара.

Можа тут узьнікнуць пытаньне, чаму Ліцьвіны ня выкарысталі ў сваю карысьць польска-крымскую вайну ды з дапамогай крыжакоў не зьвярнулі Падольля, наагул не скончылі з польскімі прэтэнсіямі да ВКЛ? З аднаго боку вайна супраць Польшчы ў саюзе з Прусіяй была-б вялікай здрадай з боку Вялікага Княства Літоўскага адносна свайго саюзьніка ў вялікай вайне супраць гэтых-жа крыжакоў 1410 году, што скончылася Грунвальдзкай перамогай. Ліцьвіны ўсёткі не наважваліся ажыцьцявіць гэты акт здрады. Таксама, ажыцьцявіўшы гэты намер, трэба было-б адначасова дэтранаваць і Вялікага Князя Казіміра, што ня было лёгкай справай. Не зважаючы на тое, што апошні акт прывёў-бы да вайны з Польшчай, ён выклікаў-бы таксама нутраныя закалоты ў Вялікім Княстве Літоўскім. Папершае з факту абраньня Казіміра на вялікакняжы пасад можна зрабіць высноў, што тут была моцная група ягоных прыхільнікаў, хоць яна таксама жадала мець Казіміра толькі для сябе, хацела, каб ён зрокся польскае кароны або ў лягальны спосаб перадаў вялікакняжы пасад камусьці другому. Падругое, ня ўсе ў ВКЛ былі наважанымі патрыётамі й ворагамі Польшчы. Як ведама, шматлікія літоўскія паны заўдзячвалі сваё ўзвышэньне якраз Крэўскай вуніі з Польшчай. Былі яшчэ й іншыя прычыны, якія падрывалі нацыянальную еднасьць і патрыятызм Ліцьвіноў, Гэта, з аднаго боку, антаганізм між панамі (магнатамі) і княжымі родамі; з другога — рэлігійныя закалоты. Як адно, так і другое Палякі, адначасна й Казімір, імкнуліся выкарыстаць ў сваю карысьць. Казімір усяляк ухіляўся ад назначэньня на адказныя ўрадавыя становішчы ў ВКЛ людзей з княжых родаў, асабліва пасьля таго, як тут выявілася тэндэнцыя высунуць кіеўскага князя Сямёна Алелькавіча на кандыдата наступнага вялікага князя. Афіцыйна праваслаўнае духавенства Вялікага Княства Літоўскага прызнала Флёрантыйскую вунію з 1439 году, і літоўскім мітрапалітам у ВКЛ перш быў вуніят Ізыдор, затым з 1458 году Грыгоры Балгарын (1458—1472). Афіцыйна таксама забясьпечваліся правы праваслаўных, найменна яны не патрабавалі пераходзіць у каталіцтва, мелі права карыстацца сваімі царкоўнымі ўставамі, бізантыйскімі традыцыямі й г. д., прызнаючы толькі зьверхніцтва Рыму.

Аднак гэта так ня было. Рым імкнуўся прывіць каталіцтва й дзеіў у гэтым кірунку, сеючы рэлігійныя закалоты, тым больш сьведамыя дыскрымінацыйныя разрозніваньні. Гэтак, прыкладам, у 1452 годзе папа Мікола накіраваў да Віленскага біскупа Мацьвея сваю Булю, дамагаючыся забароны сужэнства між каталікамі й праваслаўнымі (сьхізматыкамі й нявернымі), а ў выпадку гэтага сужэнства ці жаданьня яго ажыцьцявіць — вымагаць абавязковага пераходу «сьхізматыка» ці «нявернага» ў каталіцызм.[25] У сваім прырачэньні, выдадзеным на рукі папы Паўла II у 1468 годзе, таксама й Віленскі біскуп Ян забавязваўся «перасьледаваць і змагаць» у сілу сваіх магчымасьцяў «герэтыкаў і сьхізматыкаў».[26] Праўда, такія вымаганьні Рыму не заўсёды выконваліся, тым больш браліся на ўвагу сьвецкімі Ліцьвінамі, а таму тут былі частыя выпадкі жаніцтва праваслаўных з каталікамі й наадварот, бязь ніякае цырамоніі «пераходу» ці «перацягваньня» ў тую ці іншую веру. Прыкладам, кіеўскі князь і прэтэндэнт на вялікакняжы пасад Сямён Алелькавіч быў жанаты з дачкой Віленскага ваяводы Яна Гаштольда. Аднак апошняя рымская дывэрсія, якая бязумоўна завайстралася імкненьнямі польскага ваяўнічага каталіцызму, вельмі давала сябе адчуваць, ствараючы непатрэбныя канфлікты ды нянавісьць з боку праваслаўных да таго-ж самага Рыму. У гэтым кірунку сьведама дзеіў таксама й Казімір, з намовы ці без намовы Палякоў, каб пасеяць рэлігійную варажнечу ў ВКЛ і гэтым самым паслабіць літоўскі супраціў. Маючы гэта на ўвазе, а таксама, каб сьхіліць Рым у карысьць Польшчы ў спрэчках апошняй з крыжакамі ды дабіцца ягонае падтрымкі ў дынастычнай палітыцы Казіміра ў Чэхіі й Вугоршчыне, улетку 1468 году (ліст з 23 ліпеня) Казімір зьвяртаецца да папы Паўла II з просьбай атрымаць дазвол на пакліканьне ў Вялікае Княства Літоўскае Бэрнардынцаў дзеля «змаганьня з мноствам герэтыкаў і сьхізматыкаў».[27] Папа, ведама, ухапіўся за гэтую прапанову, і ўжо ў наступным 1469 годзе ў Вільні зьявіліся Бэрнардынцы разам з Францысканцамі, якім Казімір надае надзелы дзеля збудаваньня манастыроў і касьцёлаў ды дае права «ўмацоўваць у веры Хрыста неофітаў («перахрышчэнцаў»)».[28] Ня дзіва таму, што ў сваім звароце да папы Сікста IV у 1476 годзе праваслаўныя магнаты ВКЛ, прызнаючы зьверхніцтва Рыму й папу Рымскага як свайго вярхоўнага пастыра, адначасова заклікалі апошняга скончыць з пашыранай практыкай у ВКЛ перасьледваньня праваслаўных й прымусовага іхнага перахрышчэньня.[29] Усё гэта, ведама, стварала глебу канфліктаў між праваслаўнымі й каталікамі ў ВКЛ, аслабляла польскі супраціў Ліцьвіноў, падрыхтоўваючы адначасова глебу для змовы праваслаўных князёў супраць Казіміра.

Тымчасам на ўсходзе насьпявала загроза з боку Маскоўшчыны з прыходам да ўлады Вялікага князя Маскоўскага Івана III. Яна йшла з тэндэнцыяй апошняга падбіць сабе канчаткова Ноўгарадзкую рэспубліку. Пасьля прыгаданае Яжэлбіцае ўмовы 1456 году, Ноўгарадцы пачалі шукаць падтрымкі ў ВКЛ, і ў 1458 годзе ў Ноўгарадзе зьявіўся князь Юры Сямёнавіч (сын Сямёна Алелькавіча) зь літоўскім пасланьнікам Андрэем Ісакавічам. Відавочна была падпісана адпаведная супрацьмаскоўская ўмова, бо гэты пасланьнік быў адпушчаны зь «вялікай чэсьцяй», а Юры Сямёнавіч заняў ноўгарадзкія прыгарадкі — Русу, Ладогу, Арэшак, Карэлу, Ям і другія, г. зн. быў тут пасаджаны як апякун ад ВКЛ над Ноўгарадзкай рэспублікай. Праўда, у наступным годзе Юры Сямёнавіч з усім сваім дворам зноў выехаў у Літву, праводжаны зь «вялікімі пачасьцямі» — магчыма таму, што тут насьпяваў канфлікт з Палякамі, а ягоны бацька князь Сямён Алелькавіч быў высунуты на кандыдатуру вялікага князя літоўскага. Паўторна Ноўгарадцы прыклікалі да сябе літоўскага апякуна ў 1470 годзе. Але гэтым разам сюды прыбыў у лістападзе гэтага-ж 1470 году брат Сямёна Алелькавіча Міхаіл Алелькавіч, князь Капыльскі й Слуцкі. Сямён Алелькавіч памёр незадоўга пасьля выезду брата ў Ноўгарад, менавіта ў сьнежні гэтага-ж 1470 году, і Казімір, карыстаючыся з гэтае нагоды, адбірае ад Алелькавічаў Кіеўскае княства, назначэючы сюды свайго намесьніка (ваяводу). Праўда, Кіеўскае княства было перададзена Сямёну Алелькавічу ў 1454 годзе, пасьля сьмерці бацькі Аляксандры (Алелька) Уладзімеравіча, на правох пажыцьцёвага карыстаньня, але ў гэтым выпадку тут хавалася іншая прычына, і якраз палітычна-дынастычнага характару. Казімір імкнуўся гэтым самым паслабіць палітычную вагу сям'і прэтэндэнта на вялікакняжы пасад. Гэта, ведама, выклікала варожасьць да Казіміра князя Міхаіла Алелькавіча, які ў палавіне сакавіка 1471 году пакідае Ноўгарад, выяжджаючы ў Літву. З Ноўгарадзкай рэспублікай ад імя Казіміра была у гэты час падпісаная ўмова аб літоўскай вайсковай дапамозе Ноўгараду супраць Маскоўшчыны, згодна якое фактычна гэтая

**(Заканчэньне на 3-яй бач.)**

# Палітычнае адзінства Заходняе Эўропы

У францускай газэце «Лё Монд» быў надрукаваны артыкул аб палітычным адзінстве Заходняй Эўропы. Перадаем вытрымкі з гэтага артыкулу. Газэта піша:

«Перамовы паміж урадамі 6-ці краінаў, якія ўваходзяць у Арганізацыю Агульнаэўрапэйскага Рынку — перамовы аб стварэньні адзінага палітычнага фронту гэтых краінаў, што працягваліся каля году — прывялі да вельмі задавальняючых вынікаў. 18-га ліпеня ў Боне, на нарадзе кіраўнікоў урадаў Францыі, Нямецкай Фэдэратыўнай Рэспублікі, Італіі, Бэльгіі, Галяндыі і Люксэмбургу была дасягнутая дамоўленасьць ува ўсіх спрэчных пунктах у гэтым пытаньні. На шляху да палітычнага аб'еднаньня Заходняй Эўропы зроблены вялікі крок наперад.

«На нарадзе ў Боне было пастаноўлена даручыць адмысловай камісіі правесьці неабходныя мерапрыемствы і распрацаваць канкрэтны праект, накіраваны на хутчэйшае зьдзейсьненьне палітычнага саюзу паміж краінамі Агульна-Эўрапэйскага Рынку. Камісія павінна, у прыватнасьці, выпрацаваць юрыдычны статут будучага аб'еднаньня дзяржаваў.

«У дэклярацыі, апублікаванай пасьля нарады, прадугледжваецца таксама, што кіраўнікі ўрадаў краінаў, якія ўваходзяць у Арганізацыю Агульнаэўрапэйскага Рынку, будуць пэрыядычна сустракацца з мэтай далейшага ўмацаваньня палітычнага адзінства паміж удзельнікамі гэтай арганізацыі.

Парыская газэта «Лё Монд» піша далей:

«Пагадненьне, дасягнутае ў Боне 18-га ліпеня, зразумела, зьявілася вынікам кампрамісу і адмовы некаторых удзельнікаў нарады ад іхных першапачатковых пазыцыяў. Напрыклад, Францыя пайшла насустрач пажаданьням іншых краінаў: яна ня супярэчыла больш ні супраць зьліцьця выканаўчых органаў, ні супраць выбраньня усеагульным галасаваньнем парляманту краінаў Агульна-эўрапэйскага Рынку. З другога боку, як кампэнсацыю за гэтыя ўступкі, зробленыя Францыяй, удзельнікі нарады ўзялі пад увагу пярэчаньні прэзыдэнта дэ Голя супраць празьмерна парушаючага нацыянальны сувэрэнітэт над-дзяржаўнага характару некаторых агульнаэўрапэйскіх арганізацыяў.

«Запрашаючы іншыя дзяржавы далучыцца да краінаў Арганізацыі Агульнаэўрапэйскага Рынку, удзельнікі нарады ў Боне падкрэсьліваюць у сваёй дэклярацыі, што краіны, якія далучаюцца да Арганізацыі павінны ўдзельнічаць у існуючых агульнаэўрапэйскіх арганізацыях. У гэтым пытаньні на вялікія ўступкі пайшла Галяндыя, якая раней дамагалася, каб уступленьне ў Арганізацыю Агульнаэўрапэйскага Рынку абмяркоўвалася, у асноўным, палітычным супрацоўніцтвам. Галяндзкая дэлегацыя зазначала, што такім чынам сталася лягчэйшым далучэньне Англіі да Агульна-Эўрапэйскага Рынку».

Вынікі нарады 18-га ліпеня ў Боне газэта «Лё Монд» называе «нараджэньнем палітычнай Эўропы». «Лё Монд» піша:

«Ёсьць усе падставы ўважаць, што праз некаторы час Эўропа, як палітычная цэласьць, станецца рэальнасьцяй. Такое разьвіцьцё падзеяў выкліча незадаваленьне толькі ў колах шавіністых і камуністых.

«Паводля аднадушных цьверджаньняў усіх удзельнікаў нарады, якая адбылася 18-га ліпеня ў Боне, ніякіх асаблівых цяжкасьцяў на нарадзе не даводзілася пераадольваць. Пагадненьне было дасягнутае хутка.

«Прычыну гэтага знайсьці няцяжка: прычына — у Маскве. У свой час пагроза, якую прадстаўляла сабой палітыка Сталіна, прывяла да таго, што заходнія краіны стварылі паміж сабой абаронны Пакт NATO. Аб гэтым вельмі трапна прыгадаў урад Злучаных Штатаў з сваім адказе на ноту савецкага ўраду адносна Бэрліну. Цяпер — пагроза з боку Хрушчова прымушае народы Заходняй Эўропы забыцца былыя спрэчкі і задзіночыцца».

**Ф. Кушаль**

# Войны вялікага князя Маскоўскага Івана Трэйцяга зь Вялікім Княствам Літоўскім

(Працяг)

## ВЫЗВАЛЕНЬНЕ МАСКОЎШЧЫНЫ СПАД ТАТАРСКАГА ПАНАВАНЬНЯ

Займеўшы гэткія вялікія ўдачы, як апанаваньне Ноўгарадзкай зямлі, Іван Трэйці усё-ж і надалей застаўся даньнікам Залатое Арды. І надалей — хан Залатое Арды слаў яму загады праз адмысловых сваіх урадаўцаў, што прыбывалі ў Маскву з ханскай басмой, і ён мусіў сустракаць іх перад княжым палацам, ды выслухоўваць ханскія загады, кленчачы. Мусіў, нізка сьхіляючыся, запрашаць іх пасьля гэтак прыніжальнае для князя вялікае дзяржавы цырымоніі ў свой хорам, частаваць і багата надорваць і самога хана й ягоных паслоў. Асабліва крыўднымі і паніжальнымі здаваліся гэткія звычаі ганаровай Іванавай жонцы Зофіі й яна асьветчыла яму, што больш гэткіх ганебных для маскоўскага князя перажыткаў мінуласьці цярпець ня будзе. Пад уплывам Зофіі, калі ханскія пасланцы прыбылі наступным разам у Маскву, Іван іх сустракаць на двор ня выйшаў, а прыняў у сваіх харомах, седзячы на пасадзе.

Дазнаўшы гэтак нячуванае непашаны праз сваіх пасланцоў, хан Ахмат выкарыстаў зьнявагу, як прычыну да вайны й падыйшоў з войскам у пачатку восені 1480 году да ракі Угры — мяжы паміж Маскоўшчынай і Вялікім Княствам Літоўскім — затрымаўся на паўдзённым беразе ракі й пачаў чакаць тутка войска свайго саюзьніка Казіміра, каб разам ударыць на Маскву. Сабраўшы войска, неўзабаве прыйшоў на Угру й князь Іван, раськінуўшы свой табар на паўночным беразе ракі. Абедзьве арміі — татарская й маскоўская — стаялі адна насупраць другое, падзеленыя ракою Угрою, не адважваючыся пачынаць бой. Пабачыўшы вялікую татарскую армію, Іван Трэйці выявіў асаблівую баязьлівасьць. Ён колькі раз пакідаў табар і варочаўся ў Маскву раіцца з баярамі, ці ня лепш скапітуляваць перад ханам Ахматам, і толькі Маскоўскі Мітрапаліт Васіян Растоўскі, які празваў Івана «бягуном» за ягонае колькіразовае пакіданьне войска, змушаў гэтага «бягуна» варочацца на Угру да свае арміі. Варожыя войскі прастаялі над Уграю аж да восені. У лістападзе, калі пачаліся халады, татарская армія, непадрыхтаваная да зімовае кампаніі, пачала раскладацца, асабліва, калі сярод татараў выбухла эпідэмія. Спустошыўшы, з помсты да Казімера, які не датрымаў умоваў саюзу, Севершчыну, хан Ахмат адыйшоў на паўдня. Гэткім чынам Масква пачулася вызваленай з татарскае няволі. Аднак, канчальна разьбіў армію Залатой Арды адно крымскі хан Мэнглі Гірэй 20 год пасьлей, у 1502 годзе.

## УДАЧЫ КАЗІМЕРА Ў ПОЛЬШЧЫ, СТРАТЫ Ў ЛІЦЬВЕ Й КАЗІМЕРАВА СЬМЕРЦЬ

У 1492 годзе кароль Польскі й вялікі князь Літоўскі Казімер — памёр. За гады свайго караляваньня ў Польшчы, між 1447—1492 гадамі, Казімер здолеў зрабіць для Польшчы вельмі шмат добрага. Ён канчальна зьнішчыў колішнюю магутнасьць Крыжацкага Ордэну, які заўсёды пагражаў Польшчы, далучыў да Польшчы Памор'е, Холмінскую зямлю, паўдзённую Прусію, разам з крыжацкаю сталіцаю Мальборкам, зрабіў вялікага містра Крыжацкага сваім леньнікам, вызначыўшы яму на ўрадаваньне места Кэнігсбэрг, ды інш. У выніку вельмі ўдалае палітыкі Казімера й ягоных заваёваў, Польшча цалкам апанавала паўдзённае ўзьбярэжжа Бальтыцкага мора ад утокаў Віслы з Гданскам, паўзь Літву, аж да Нёмну. Чэхія й Вугоршчына, дзеля таго, што Казімераў сын Уладыслаў быў іхным каралём, былі цалкам пад польскімі ўплывамі; быў леньнікам Польшчы й Малдаўскі гаспадар.

Усе пералічаныя тутка дасягненьні Казімера былі здабытыя цаною вялікіх стратаў на ўсходзе. Як вялікі князь Літоўскі, Казімер аніразу ня даў збройнага адпору Івану Трэйцяму, не падтрымаў ані Ноўгарадзкую рэспубліку ў ейным няроўным змаганьні з Маскоўшчынай, ані княства Цьверскае, хоць даў ім у свой час гарантыі. Не датрымаў ён вайсковага саюзу й з ханам Залатое Арды Ахматам.

У выніку гэткага занядбаньня, Вялікае Княства Літоўскае страціла на карысьць Масквы чатыры ўдзельныя княствы, Ноўгарадзкая рэспубліка й княства Цьверскае былі ўлучаныя ў склад Маскоўшчыны, якая вызвалілася з татарскае няволі й пачала год па годзе расьці ў магутнасьць. А што найважнейшае — слава Вялікага Княства Літоўскага, як магутнае й непераможнае дзяржавы, была назаўсёды згубленая.

Пасьля сьмерці Казімера, каралём Польшчы стаўся ягоны другі сын — Ян Ольбрахт, а вялікім князем Літоўскім — трэйці Казімеравы сын Аляксандар. У 1492 годзе ўсе тры Казімеравы сыны — Чэскі й Вугорскі кароль Уладыслаў, Польскі кароль Ян Ольбрахт і вялікі князь Літоўскі Аляксандар зрабілі міжсобку вечны саюз.

## ПЕРШЫ ЗБРОЙНЫ НАПАД ІВАНА ТРЭЙЦЯГА НА ВЯЛІКАЕ КНЯСТВА ЛІТОЎСКАЕ

Вызваліўшыся з татарскае няволі, заваяваўшы Ноўгарад і Цьверскае княства, Іван Трэйці пачуўся вельмі дужым. Але ён усё-ж не адважыўся збройна выступіць супраць Вялікага Княства Літоўскага, аж пакуль не памёр вялікі князь Казімер, а на Літоўскім пасадзе сеў ягоны малады й недасьветчаны сын Аляксандар. Пастанавіўшы, што цяпер надыйшоў нарэшце на-

# Інтэрв'ю з праф. Антонам Адамовічам пра самагубства У. Ігнатоўскага

Сёлета мінула 30 гадоў ад часу трагічнага самагубства на 50-ым годзе жыцьця прафэсара Ўсевалада Ігнатоўскага, закладчыка Беларускага дзяржаўнага ўнівэрсытэту, прэзыдэнта Беларускае Акадэміі навук, выдатнага гісторыка і дзеяча беларускага нацыянальнага руху. Маладому пакаленьню Беларусі пра Ўсевалада Ігнатоўскага не гаворыцца цяпер нічога: ні благога, ні добрага. Афіцыйным маўчаньнем партыя думае засерці сьляды нацыянальнае трагедыі Беларусі, трагедыі зырка ўвасобленае ў самагубсьцьве Усевалада Ігнатоўскага.

У 1930 годзе, роўна год перад самагубствам Ігнатоўскага, у Маскве выйшаў IV том «Літаратурнае энцыкляпэдыі», на 416-ай і 417-ай балонках якога чытаем:

«Ігнатоўскі Ўсевалад Макаравіч (год нараджэньня 1881-ы) — гісторык Беларусі і гісторык і крытык беларускае літаратуры. Радзіўся ў сям'і народнага настаўніка ў былой Горадзенскай губэрні. Распрацоўваньнем гісторыі Беларусі пачаў займацца ў 1905 годзе, калі быў высланы пасьля студзенскіх падзеяў зь Пецярбургу, дзе вучыўся ў Гістарычна-філялягічным інстытуце. У канцы 1906 году ізноў паступіў на гістарычна-філялягічны факультэт Пецербурскага ўнівэрсытэту, але неўзабаве быў высланы ў Аланецкую губэрню. У 1911 годзе скончыў Дорпацкі ўнівэрсытэт. Па сканчэньні працаваў ў сярэдніх школах Вільні, а ад 1914-га году — у Менскім настаўніцкім інстытуце — выкладчык гісторыі. Адначасна вёў навукова-дасьледніцкую працу зь гісторыі Беларусі. У 1921 годзе быў выбраны за прафэсара Беларускага дзяржаўнага ўнівэрсытэту. Ад 1917 году Ігнатоўскі бярэ актыўны ўдзел у рэвалюцыйным руху, належыць да партыі сацыялістых-рэвалюцыянэраў. У камуністычную партыю бальшавікоў, Ігнатоўскі ўступае ў 1920 годзе. Наступна займае становішча сябры Ваенна-рэвалюцыйнага камітэту Беларусі, наркамзема, наркамасьветы, сябры і прэзыдэнта Беларускае акадэміі навук, сябры ЦК і Бюро ЦК, Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту БССР і СССР». Далей у «Літаратурнай энцыкляпэдыі» падаецца агляд гістарычных і літаратурных працаў Усевалада Ігнатоўскага.

Па трох гадох, у 1933 годзе, выйшаў 27 том першага выданьня Вялікае Савецкае Энцыкляпэдыі, і там ужо пра Ігнатоўскага ня было ні слова. Не спамінае яго і апошняе выданьне Вялікае Савецкае Энцыкляпэдыі. Тым ня менш Усевалада Ігнатоўскага памятае шмат хто, бо ў 20-х гадох на Беларусі ён быў адным з найбольш дзейных, аўтарытэтных і папулярных людзей.

Прафэсар Антон Адамовіч, беларускі гісторык і літаратуравед, сябра разгромленага на пачатку 30-х гадох літаратурнага згуртаваньня «Узвышша», быў блізка знаёмы зь сям'ей Усевалада Ігнатоўскага і ў часе ягонага самагубства знаходзіўся ў Менску. Мы папрасілі яго расказаць пра Ўсевалада Ігнатоўскага і ягонае трагічнае самагубства.

**Пытаньне:**

Прафэсар Адамовіч, якія асабістыя дачыненьні былі ў Вас да асобы Усевалада Ігнатоўскага?

**Адказ:** Мае дачыненьні былі вельмі блізкія. Мне давялося вучыцца разам із старэйшым сынам Ігнатоўскага Міхасём. Мы зь ім вучыліся разам у Беларускім Педагагічным тэхнікуме, які пасьля пачаў насіць імя Ігнатоўскага, аж пакуль бальшавікі не зьнялі гэтага імя. Сябруючы зь Міхасём, я наведваў ягоную хату, і такім парадкам увайшоў у знаёмства з усёй сям'ёй, у тым ліку із бацькам. Тым больш, што Міхасёў пакой быў фактычна выкраены зь вялікага габінэту бацькі, аддзелены толькі кніжнымі паліцамі. Часта бацька заходзіў у гэты Міхасёў пакой, у якім часамі зьбіралася яшчэ колькі іншых сяброў, і меў з намі розныя гутаркі — такога нацыянальна-узгадавальнага характару.

**П:** Як ставілася менская студэнцкая моладзь да прафэсара Ігнатоўскага?

**А:** Наагул, Ігнатоўскага ў колах моладзі, ня толькі студэнцкае моладзі, а наагул, называлі заўсёды «бацькам», гэта была такая ягоная неафіцыйная мянушка, і яна даволі добра адказвае на Вашае пытаньне. Ён уважаўся агульнабеларускім, казаў той, бацькам беларускага руху ў тых часох.

**П:** Прафэсар Адамовіч, які пагляд Ігнатоўскага быў на спосаб выкарыстаньня палітычных абставінаў падсавецкае Беларусі для беларускага нацыянальнага адраджэньня?

**А:** Асноўная ідэя Ігнатоўскага была ў тым, што ўсё трэба выкарыстоўваць для беларускага руху, і паколькі лад стаўся такі, што кіруе ўсё камуністычная партыя, дык трэба выкарыстаць гэтую камуністычную партыю. Я вельмі добра памятаю, як Ігнатоўскі ў 1940 годзе зусім адкрыта казаў аб гэтым на сходзе менскае арганізацыі беларускіх сацыялістых-рэвалюцыянэраў (ён быў сябрам гэтае партыі да таго). Ён проста заявіў там, што «я пераходжу ў камуністычную партыю, бо гэткім парадкам толькі цяпер можна рабіць беларускую справу».

**П:** У якіх абставінах адбылася самагубства Ігнатоўскага?

**А:** Я тады якраз быў арыштаваны як беларускі нацдэм і быў у падвале менскага ГПУ. Абставіны самагубства Ігнатоўскага зьвязаныя якраз з нашаю справаю беларускіх нацдэмаў, або як зь яе хацелі зрабіць бальшавікі, справай Саюзу Вызваленьня Беларусі, СВБ, наўзор украінскага Саюзу Вызваленьня Украіны, працэс якога адбыўся тады перад гэтым. Калі Масква забракавала некаторых кандыдатураў на падстаўныя лідэры гэтай, створанай ГПУ фікцыйнай кансьпірацыі, Масква паставіла заданьне зрабіць гэткім лідэрам прафэсара Ігнатоўскага. Якраз гэта і была прычына ягонага самагубства. Яго пачалі паклікаць у ГПУ, дапытваць і выразна было для яго, што ён рыхтуецца на ролю гэтага лідэра, правадыра беларускіх нацдэмаў на магчымым іхным працэсе, які рыхтавала ГПУ.

**П:** У Вашай кнізе пра супраціў саветызацыі ў беларускай літаратуры гаворыцца пра спробу самагубства Янкі Купалы: Гэта таксама было зьвязана з рыхтаваным тады працэсам нацдэмаў?

**А:** Зьвязанай вельмі цесна. Ігнатоўскі быў абраны за аб'ект на лідэра нацдэмаў пасьля таго, як бальшавікі пабачылі, што Янку Купалу ў гэтай ролі нельга будзе выкарыстаць пасьля ягонае няўдалае спробы самагубства, пра якое весткі разышліся вельмі шырака.

**П:** Вы ўспомнілі пра Саюз Вызваленьня Беларусі: Ці ён існаваў у сапраўднасьці?

**А:** Нічога такога падобнага не існавала. Усё было зроблена ў габінэтах ГПУ на загад Масквы — наўзор украінскага СВУ, які таксама няма ведама ці існаваў.

**П:** Усевалад Ігнатоўскі, якое становішча ён займаў у тыя часы ў Менску?

**А:** Ён быў Прэзыдэнтам Акадэміі навук.

**П:** Ён быў арыштаваны?

**А:** Не, ён арыштаваны ня быў, але пачаліся допыты, якія ў ягоным становішчы нічога не прадвяшчалі добрага. Апрача таго, як пасьля мы даведаліся з прыватных крыніцаў, прыяцелі Ігнатоўскага, якія мелі весткі з ГПУ, папярэдзілі яго, што рыхтуецца ягоны арышт. Пасьля гэтага папярэджаньня ён і застрэліўся, што было адзіным спосабам ратунку і пратэсту.

**П:** Той факт, што Ігнатоўскага ГПУ хацела зрабіць лідарам на працэсе нацдэмаў, фактычна падмацоўвае цьверджаньне, што ён быў вызначнай фігурай у беларускім нацыянальным руху.

**А:** Бязумоўна, у тых часох ён быў найбольш вызначаны ў гэтым руху, асабліва таму, што фактычна ён быў цэнтрам ўсёй беларускай легальнай нацыянальнай актыўнасьці ў БССР.

**П:** Прафэсар Адамовіч, калі Ігнатоўскі пачаў браць удзел у беларускім нацыянальным адраджэньні і што ён пакінуў па сабе, як навуковы працаўнік?

**А:** Гэта два пытаньні. Калі ён пачаў браць удзел у беларускім нацыянальным руху, дык гэта задакумантавана яшчэ за нашаніўскімі часамі. Яшчэ студэнтам ён браў удзел у студэнцкім гуртку Юр'еўскага (ці Дорпацкага) унівэрсытэту, і ў «Нашай Ніве» былі зьмешчаныя лісты з таго ўнівэрсытэту, пад якімі можна знайсьці подпіс і Ігнатоўскага. Гэта быў пачатак ягонае дзейнасьці. Пасьля, скончыўшы ўнівэрсытэт, ён таксама пачаў выяўляць сябе як беларускі навуковец. І ўжо будучы выкладчыкам Менскага пэдагагічнага інстытуту, які быў эвакуаваны ў Яраслаўль, ён пачаў чытаць там лекцыі у гуртках беларускіх студэнтаў пра беларускае нацыянальнае пытаньне. Пасьля гэтыя лекцыі выйшлі асобнай брашурай. Таксама ў той час ён займаецца гісторыяй Горадзеншчыны — гэта быў пачатак ягонай навуковай працы, як гісторыка.

Што да другога Вашага пытаньня, — Якую навуковую спадчыну ён пакінуў? — дык гэтая навуковая спадчына яго галоўным чынам у гісторыі Беларусі. У гэтай спадчыне ёсьць такія папулярныя падручнікі, як, прыкладам, «Кароткі на-

(Заканчэньне на 4-ай бачыне)

# Тыдзень Паняволеных Народаў

Трэйці год падрад Амэрыка адзначыла Тыдзень Паняволеных Народаў. Прэзыдэнт Кенэды, ідучы сьледам свайго папярэдніка Прэзыдэнта Айзэнгаўэра, 15 ліпеня сёлета абвесьціў праклямацыю Тыдня Паняволеных Народаў. У праклямацыі Прэзыдэнт зьвярнуўся да Амэрыканцаў «пацьвердзіць падтрыманьне справядлівага імкненьня ўсіх народаў да нацыянальнае незалежнасьці й свабоды».

Тыдзень Паняволеных Народаў (ТПН) быў абвешчаны ўпяршыню ў 1959 г., калі Амэрыканскі Кангрэс аднагалосна прыняў рэзалюцыю, што ўпаўнаважвала амэрыканскага Прэзыдэнта абвяшчаць «Тыдзень» да таго часу, пакуль ня будзе здабытая свабода й незалежнасьць для ўсіх паняволеных народаў сьвету. У кангрэсавай рэзалюцыі сярод паняволеных краёў спамінаецца таксама й Беларусь.

Сёлета адзначэньне ТПН, як і два папярэднія, з нашага гледзішча прайшло бледнавата, калі браць наўвету факт, што запачаткаваны ён быў аднагалоснай пастановай усяго Амэрыканскага Кангрэсу. Справа ў тым, што паняцьце «паняволеныя народы» рознымі людзьмі й групамі разумеецца й тлумачыцца паразнаму. Прыкладам, прадстаўнікі сатэлітных дзяржаваў (плюс Балты), арганізаваўшыся ў «Асамблею Паняволеных Эўрапейскіх Народаў», усімі сіламі намагаюцца зьвесьці паняцьце «паняволеных народаў» да сябе саміх. Гэтак, прыкладам, у часе сёлетняга адзначэньня ТПН, перад будынкам АЗН была вывешаная карта Эўропы з адзначэньнем паняволеных народаў. На карце былі адзначаныя толькі сатэліты й Балты, а ўся рэшта Ўсходняй Эўропы — гэта «Расейская Імпэрыя». Амэрыканская прэса найчасьцей падтрымвае й пашырае якраз гэткае разуменьне. Прыкладам, газэта «Нью-Ёрк Таймс», спамінаючы сёлета Айзэнгаўэравую праклямацыю ТПН у 1959 г., заявіла, што гэная праклямацыя датычыла «галоўна» сатэлітных дзяржаваў Усходняе Эўропы, хоць у Кангрэсавай рэзалюцыі ўсе паняволеныя народы пералічаныя ў альфабэтным парадку. Амэрыканцы вельмі часта, нясьведама або й сьведама, ня хочуць пералічаць паняволеных нерасейскіх народаў у Савецкім Саюзе, каб не дражніць, відаць, маскоўскага мядзьведзя. З другога боку, і сярод саміх нерасейскіх народаў, арганізаваных у «Амэрыканскай Канфэрэнцыі Вызваленьня Нерасейскіх Народаў СССР», адныя прадстаўнікі прабуюць «выбіцца ў людзі» коштам іншых, ломячы салідарнасьць. Гэтак, прыкладам, у «Маніфэсьце» раздаваным на сёлетнім адзначэньні ТПН у Нью-Ёрку падпісаным таксама й вышэй спомненай «Амэрыканскай Канфэрэнцыяй», былі пералічаныя толькі Ўкраіна й Грузія з Армeніяй, а ўся рэшта запісаная ў «і іншыя». Старшынём гэнае «Амэрыканскае Канфэрэнцыі» сп. С. Ярэма (Укр.). Паводля «Беларускага Голасу», сп. К. Мярляк — Генэральны Сакратар «Канфэрэнцыі». Між іншага, гэта ўжо ня першы раз, што ўкраінскія прадстаўнікі, рэпрэзэнтуючы міжнацыянальныя арганізацыі, выкарыстоўваюць гэтыя арганізацыі толькі для сваіх інтарэсаў. Некаторым нашым украінафілам трэба было-б часьцей думаць пра гэта.

Арганізацыя расейскіх фашыстых, НТС, і іншыя Расейцы сёлета праводзілі інтэнсыўную акцыю, каб не дапусьціць да праклямацыі ТПН. У «Новым Рускім Слове» былі адозвы да Расейцаў, каб яны пісалі ў Вашынгтон пратэсты з дамаганьнем скасаваць кангрэсавую рэзалюцыю ў справе ТПН. Гэтага, аднак, як бачым ім не ўдалося дасягнуць. Амэрыка адзначыла ТПН. Цяпер, калі ў сувязі з бэрлінскім крызысам пытаньне самавызначэньня йзноў ставіцца вельмі войстра, магчыма, шырэйшыя колы амэрыканскага грамадзтва й асабліва прэса прыйдуць да перакана765ньня, што нельга такога фундамэнтальнага прынцыпу, як прынцып нацыянальнага самавызначэньня, разьбіваць на розныя катэгорыі, а трэба тарнаваць яго пасьлядоўна ў цэлым сьвеце. Тады толькі Амэрыка здолее перамагчы аблуду расейска-камуністычнае прапаганды.

**А. Будзіч**

# Да пытаньня „Змовы князёў" 1481 году

(Працяг з 2-ой бачыны)

рэспубліка станавілася неад'емнай часткай ВКЛ. Як зазначае расейскі гісторык К. Базылевіч,[30] да гэтае ўмовы дайшло дзесьці ў красавіку 1471 году. Іван III із свайго боку ня мог згадзіцца з такім станам і ён улетку 1471 году зь вялікай арміяй напаў на Ноўгарад. У бітве на рацэ Шэлоне ноўгарадзкае апалчэньне было разьбітае, а галоўныя прыхільнікі ВКЛ трапілі ў палон. У жнівені ўсе яны за сваю «здраду» паплаціліся жыцьцём. Іван III апустошыў ноўгарадзкія гарады, знатнейшую шляхту і баяраў адаслаў у Маскву ў вязьніцы, частку Ноўгарадзкае рэспублікі прылучыў да Маскоўскага княства, а астатняй накінуў жаданую так званую Карастынскую ўмову, абмежаваўшы ейную незалежнасьць яшчэ больш, чым гэта прадбачвала Яжэлбіцкая ўмова. Абяцаньне Казіміра «всести на конь за Велики Новгород со всею с своею Радою Литовскою» ня зьдзейсьнілася, і ВКЛ згубіла магутнага свайго паўночнага саюзьніка.

---

[24] Чтенія в Императорском обществе Истории и Древностей Российских при Московском университете, кн. 3, Москва, 1887, № 92, б. 101-102.

[25] **Codex diplomaticus Ecclesiae cathedralis necnon Dioceseos Vilnensis**, vol. 1, Fasc. 1, Krakow, 1932, nr. 210, p. 237—239.

[26] **Ibid.**, vol. 1, Fasc. 2, Cracoviae, 1939, nr. 251, p. 289—291.

[27] **Ibid.**, nr. 258, p. 296—297.

[28] **Ibid.**, nr. 264, p. 303—306.

[29] **Архив Юго-Западной Россіи**, ч. I, т. VII, Кіев, 1887, б. 199—231.

[30] Базилевич К. В., **Внешняя политика Русского централизованного государства — Вторая половина XV века**, Москва, 1952, б. 96.

(Працяг у наступным нумары)

**П. Урбан**

лежны час, Іван Трэйці пачаў рыхтавацца да вайны зь Літвою. Падрыхтова гэтая была вельмі своеасаблівая. Перш за ўсё, у Маскве пачалі паляваць на літоўскіх «шпіёнаў». Палічыўшы гэткім Казімеравага рэзыдэнта ў Маскве князя Лукомскага, яго спалілі жыўцом разам зь перакладчыкам Мацеем. Князя Бельскага — закатавалі насьмерць пры допытах, двух братоў Селівіных з Смаленску — забілі, адсекшы аднаму галаву, другога, засекшы да сьмерці бізунамі. Двух князёў Петрыкавых — замкнулі ў манастыр, ды, апрача пералічаных, зьнішчылі вялікую колькасьць іншых, менш значных, людзей, адзінаю віною якіх было тое, што нечай хворай уяве яны здаліся падазронымі «літоўскімі шпіёнамі».

У 1492 годзе, правёўшы вышэй прыгаданую «падрыхтову», Іван Трэйці, не абвяшчаючы вайны, паслаў супраць Вялікага Княства Літоўскага дзьве арміі. Першая, пад камандай князя Абаленскага, заняла Мцэнск і Любуцк, іншая, пад камандаю князёў Данілы Шчэні й Васіля Пятрыкеева, здабыла Сярпейск, Мшчоўск і Вязьму. Напад Маскоўшчыны быў цалкам неспадзяваны для Вялікага Князя Аляксандра. Ён зусім ня быў падрыхтаваны да вайны і, сьпехам змабілізаваўшы войска з усходніх ваяводзтваў, выслаў яго пад камандаю Смаленскага ваяводы Юрага Глябовіча напярэймы маскоўскіх арміяў, каб устрымаць іхны наступ да часу арганізацыі належнага адпору. Пасьля некалькіх сутычкаў, ваяводзе Глябовічу ўдалося навет адкінуць назад маскоўскую армію й адабраць назад Сярпейск і Мшчоўск. Аднак, рэшта забраных гарадоў, а гэта Мцэнск, Любуцк і Вязьма, засталіся ў маскоўскіх руках. Каб апраўдаць свае захопы, Іван Трэйці напісаў князю Аляксандру ліст, дзе паведамляў, што паводля старых грэцкіх летапісаў, мяжа між Літвою й Маскоўшчынай ішла ўздоўж ракі Бярэзіны, а таму землі, што ляжаць на ўсход ад Бярэзіны, праўна належаць яму, «гасудару ўсяе Русі», і Аляксандар павінен аддаць іх яму без праліцьця крыві. Гэты Іванаў ліст цікавы тым, што ў ім Іван упяршыню называе сябе «Гасударам усяе Русі». Аднак, Іванавы довады Аляксандра не пераканалі й да спыненьня вайны спрычыніліся не яны, а хуткі й энэргічны адпор, які Літоўскае войска здолела даць Маскоўскаму захопніку.

### ЖАНІМСТВА ВЯЛІКАГА КНЯЗЯ АЛЯКСАНДРА ЗЬ ІВАНАВАЙ ДАЧКОЙ АЛЕНАЙ

Палажэньне Вялікага Князя Аляксандра было вельмі цяжкое. У змаганьні з Маскоўшчынай ён мусіў лічыць адно на ўласныя сілы, гэта значыцца — на Вялікае Княства Літоўскае. Брат ягоны, Польскі кароль Ян Ольбрахт, нічым яму дапамагчы ня мог, бо быў у гэным часе ў цяжкой вайне з Турэччынай. І Аляксандру яшчэ маладому й дзяцюку, які шчыра не жадаў вайны з Маскоўшчынай, прыйшла ў галаву думка ажаніцца зь Іванавай дачкой Аленай, спадзяючыся, што цесьць, хіба, ня будзе квапіцца на валоданьні ўласнага зяця. У 1494 г. Аляксандар паслаў у Маскву упаўнаважаных — сватоў прасіць у Івана Трэйцяга ягонае дачкі Алены ў жонкі для вялікага князя Літоўскага Аляксандра. Пасьля даўгіх перамоваў Іван Трэйці, нарэшце, згадзіўся аддаць Алену Аляксандру, робячы, адылі, шмат розных засьцярогаў. Гэтак, ён абумовіў сваю згоду тым, каб Алена захавала праваслаўную веру, каб Аляксандар пабудаваў для яе на замкавым двары ў Вільні адмысловую, ейную, праваслаўную царкву, каб абслугоўвалі Алену вылучна слугі праваслаўнага веравызнаньня ды шмат інш. Гэтыя-ж самыя упаўнаважаныя, што былі Аляксандравымі сватамі, падпісалі зь Іванам Трэйцім у Маскве вечны мір між Маскоўшчынай і Вялікім Княствам Літоўскім. Паводля гэтага міру, літоўскія землі, захопленыя Іванам, заставаліся пры ім. Пасьля таго, як усе ўмовы й фармальнасьці былі заладжаныя, Іван перадаў сваю дачку Аляксандравым упаўнаважаным і тыя, у належна вялікай маскоўскай асысце, прывезьлі Алену ў Вільню й перадалі Вялікаму Князю Аляксандру.

Алена прывезла із сабою з Масквы свайго духоўнага настаўніка сьвятара Фаму й асабістага сакратара Шастакова. У запраўднасьці — абодвы яны былі звычайнымі Іванавымі шпіёнамі пры вялікакняжым двары ў Вільні й данасілі Івану ўсё, што тут рабілася. Пажыўшы ў Вільні й пазнаўшы тутэйшае праваслаўнае сьвятарства, Алена неўзабаве пераканалася, што яно непараўнальна культурнейшае й больш асьвечанае за маскоўскае, а таму — выправіла Фаму назад у Маскву. Шастакоў, адылі, застаўся ў Вільні й стаўся вялікаю перашкодаю ў добрых дачыненьнях між цесьцем і зяцем. Ён пісаў Івану Трэйцяму хлусьлівые правакацыйныя даносы, якія сеялі між Іванам і Аляксандрам варажнечу й недавер. Дзеля прыкладу, даю тутка адзін з гэткіх лістоў Шастакова да Івана, узяты зь «Истории России с древних времен» С. П. Салаўёва, у перакладзе на беларускую мову:

«Тутка ў нас здарылася смута вялікая між лацінамі й нашым хрысьціянствам. У нашага Валадыку Смаленскага д'ябал усяліўся, ды ў Сапегу яшчэ, усталі на праваслаўную веру. Але гаспадарыню нашую Бог навучыў, ды помніла навуку гаспадара айца свайго й яна адказала мужу так: «Успомні, што ты абяцаў гаспадару айцу майму, а я бяз волі гаспадара айца майго не магу гэта рабіць, абыйдуся, як мяне навучыць». Ды і ўсё нашае праваслаўнае хрысьціянства хочуць ахрысьціць. Ад гэтага Русь зь Літвою ў вялікай варажнечы. Больш не асьмелюся пісаць. Калі-б можна было зь кім на словах пераказаць».

З апошняга сказу Шастаковага лісту можна дагадвацца, што ён сустракаўся, відаць, зь нейкім тайным агентам Івана, якому, паводля наказу з гары, і пераказаў тое, чаго ня мог напісаць. Што ў даносах Шастакова ня было й слова праўды, пабачым пасьлей зь лісту самае Алены да бацькі.

(Працяг будзе)

